№30 ЧЭРВЕНЬ 2013

# Настаўнік.info

ІНФАРМАЦЫЙНА-МЕТАДЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ ДЛЯ НАСТАЎНІКАЎ

# ГРАМАДЗЯНСКАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З ДЗЯЦІНСТВА

13 чэрвеня 2013 г. ва ўтульным старажытным горадзе Німбурк у гімназіі Каменскага адбыўся фінал чэшскага конкурсу сацыяльных праектаў школьнікаў «Ja, občan», што ў перакладзе на нашую гучыць як «Я, грамадзянін». Галоўная мэта конкурсу: спрыяць усведамленню школьнікамі пачатку вялікіх учынкаў з малых справаў, неабходнасці ўласнага ўдзелу моладзі ў жыцці сваёй школы, роднай вёскі ці горада, раёна, краіны. Патрыятызм пачынаецца распаўсюдзілася ў багата якіх краінах свету. Нашы суседзі з Украіны ладзяць сваю супольную акцыю школьнікаў «Громадянин» з 2001 года.

У 2013 г. на чэшскі конкурс заявілася 45 камандаў, а дайшло да фіналу 10.




Беларускім педагогам чэшскі вопыт будзе цікавым, бо з новага навучальнага году ў нашай краіне стартуе конкурс сацыяльных праектаў школьнікаў «Мы – грамадзяне Беларусі».

«Я, грамадзянін» гэтага года ў Чэхіі – восьмы па ліку. Арганізатарамі конкурсу выступаюць некалькі грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, а нязменнымі каардынатарамі – настаўнікі-энтузіясты Радак Прахазка ды Марцін Матэйка. з пасаджанага дрэва ці адрамантаванай лавачкі, дапамогі самотнаму старому суседу ці малым у сваім двары. Далучэнне юных грамадзян да дзейнасці ў супольнасці па вырашэнні мясцовых праблем з'яўляецца для іх першым практычным досведам грамадзянскай дзейнасці. Ідэя была ўзята з амерыканскай ініцыятывы Цэнтра грамадзянскай адукацыі г. Калабас і

Напярэдадні 13 чэрвеня ў Німбурк з'ехаліся школьныя каманды з кіраўнікамі з розных куткоў Чэхіі: Румбурка, Жатца, Брна, Подзебрадаў. Адметна, што цікавасць да конкурсу актыўна праяўляе правінцыя, бо сталічных школьнікаў сярод удзельнікаў мы не заўважылі. Яшчэ ўразіла, што праяўляюць сацыяльную ініцыятыву ў большасці дзяўчаты

*(Працяг на ст. 4)*

*Рэгіён*

## РЭГІЯНАЛЬНАЯ ПРЭСА ПРА АДУКАЦЫЮ

**Настаўнік вырашыў заняцца рэпетытарствам: парады юрыста**

***Борисовские новости***

*Падкажыце, ці трэба афармляць індывідуальнае прадпрымальніцтва настаўніку, калі ён хоча заняцца рэпетытарствам?*

*Што мае на ўвазе закон пад паняццем «рэпетытарства»? Куды трэба звяртацца? Якой велічыні падатак трэба будзе выплачваць?*

*З павагай, Марыя.*

Часткай 4 артыкула 1 Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь вызначана, што да прадпрымальніцкай дзейнасці не адносіцца дзейнасць фізічных асобаў, якая ажыццяўляецца імі самастойна, без прыцягнення іншых фізічных асобаў паводле працоўных і (альбо) грамадзянска-прававых дамовах па здзяйсненні паслуг па рэпетытарству.

Такім чынам, калі Вы збіраецеся займацца рэпетытарствам самастойна, без прыцягнення іншых фізічных асобаў, афармляць прадпрымальніцтва не трэба.

Нормамі Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь рэпетытарства вызначана як кансультацыйныя паслугі па асобных навучальных прадметах (прадметах), вучэбных дысцыплінах (дысцыплінах), адукацыйных абласцях,

**РЭГІЯНАЛЬНАЯ ПРЭСА ПРА АДУКАЦЫЮ >> СТАР. 1-2**

**РАЗВАГІ ПАСЛЯ АПОШНЯГА ЗВАНКА >>> СТАР. 4**

## Рэгіёны

тэмах, у тым ліку дапамога ў падрыхтоўцы да цэнтралізаванага тэставання.

Да пачатку дзейнасці неабходна наведаць падатковую інспекцыю па месцы жыхарства, напісаць заяву на падставе якой Вас паставяць на ўлік. Пасля выплачваецца адзіны падатак. Базавая стаўка адзінага падатку за справаздачны перыяд вагаецца ў залежнасці ад мясцовасці, яе памер Вам скажуць у падатковай інспекцыі.

### Слонімскія ліцэісты – майстры 3D-мадэлявання

**Газета Слонімская**

**Слонімскія ліцэісты ўзялі першае месца ў конкурсе «Камп'ютар. Адукацыя. Інтэрнэт» за праект «3D-мадэль майго горада».**

Распрацавалі яго пяць хлопцаў з ліцэя – Дзмітрый Цыганкоў, Аляксандр Наташкін, Максім Навіцкі, Яўген Слізень, Арцём Бурлай. Дапамагала ім ва ўсім педагог Эла Якубейка, а апрацоўкай здымкаў і відэа займаўся Улад Магер.

Прадметам распрацовак сталі гістарычныя помнікі Слоніма – будынак агульнаадукацыйнага ліцэя, Свята-Траецкі праваслаўны сабор, цэнтральная бібліятэка, ратуша, вакзал і г.д.

А пасля прэзентацыі свайго праекта (якая адбывалася ў Ашмянах) хлопцы вырашылі здзівіць усіх удзельнікаў і гасцей і паказалі дадатковыя працы – чатыры мадэлі ашмянскіх будынкаў. Пасля прагляду сябры журы пляскалі ім стоячы!

За першае месца слонімскіх хлопцаў ўзнагародзілі струменнай друкаркай, бесправадной клавіятурай і мышкай. Таксама ўдзельнікі конкурсу атрымалі спецыяльны прыз – лазерны прынтар – ад міністра адукацыі.

Працамі слонімскіх хлопцаў таксама зацікавіўся намеснік дырэктара Парка высокіх тэхналогій, які запрасіў іх наведаць ПВТ.

### Вучні пішуць на паперы – тэкст з'яўляецца ў камп'ютары?

**Наша Слова**

**Як было б добра: робіш нейкія нататкі ад рукі, а яны адразу пераўтвараюцца ў электронны фармат.**

Не трэба ніякай клавіятуры. Проста пішаш, як звычайна, – і ўсё. Тэхналогіі, якія дазваляюць гэта рабіць, ужо існуюць. Зразумела, што ў першую чаргу такое было зроблена для англійскай і іншых моў з лацінскім алфавітам. Але прыйшла чарга і беларускай.

Ліліян Саван, спецыяліст французскай кампаніі VisionObjects, якая спецыялізуецца на распазнаванні рукапісных тэкстаў, пабываў у Беларусі, каб атрымаць як мага больш узораў почыркаў беларусаў. Тры дні ў офіс Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны прыходзілі людзі, неабыякавыя да роднага слова. Яны запаўнялі спецыяльныя анкеты на беларускай мове лічбавымі асадкамі, якія запаміналі почырк кожнага ўдзельніка. Усё гэта рабілася для таго, каб работнікі VisionObjects маглі пачаць працу па распазнаванні камп'ютарам і беларускай рукапіснай мовы. «Мэта праекту – сабраць прыклады почыркаў як мага большай колькасці людзей: мужчын і жанчын, старых і маладых. Пры дапамозе лічбавых асадак запісваецца працэс напісання літар, лічбаў і іншых знакаў ад кожнага ўдзельніка», – распавядае Ліліян Саван.

Падобная праца праводзіцца кампаніяй па ўсім свеце. Дарэчы, спадар Ліліян лічыць, што будучыня не толькі за лічбавымі формамі захавання інфармацыі:

– Рукапісы будуць існаваць таксама. Сёння, зразумела, людзі ўсё больш карыстаюцца планшэтамі, смартфонамі і іншай тэхнікай. Але ўсе гэтыя прыстасаванні маюць пэўныя абмежаванні. Вы заўсёды маеце патрэбу ў напісанні чаго-небудзь. З дапамогай ручкі, пальца, алоўка. І часам бывае, што напісаць нешта рукой значна прасцей і хутчэй, чым з дапамогай нейкіх тэхнічных прыстасаванняў. Аднак пасля гэтага часта даводзіцца пераводзіць усё ў лічбавы фармат з дапамогай камп'ютараў. Мы працуем для таго, каб чалавек мог пісаць сваёй рукой, як звычайна, а спецыяльная праграма адразу пераводзіла б гэта ў патрэбны фармат. Гэта вельмі эканоміць час. Такія магчымасці будуць вельмі карыснымі для адукацыі.

І сапраўды: замест таго, каб дзецям парушаць сваю маторыку на клавіятуры, лепей яны будуць пісаць, як на звычайнай паперы, а потым тэкст будзе пераводзіцца ў электронны выгляд.

### Невядомыя музеі Баранавічаў

**Intex-press**

**«IP» наведала музеі навучальных устаноў, пра якія мала ведаюць гараджане.**

**Музей спажывецкай кааперацыі Беларусі і гісторыі навучальнай установы**

Адрас: УА «Баранавіцкі тэхналагічны каледж Белкаапсаюза», вул. Леніна, 5.

У ім дзве залы – гісторыі спажыўкааперацыі і гісторыі навучальнай установы. У першай зале можна ўбачыць калекцыю грашовых купюр і манет, талоны на тавары часоў дэфіцыту і падліковую тэхніку, якая ўжо стала гісторыяй. Экскурсавод раскажа, што першымі каапературамі былі дзекабрысты, і патлумачыць, што ж такое спажыўкааперацыя. У зале гісторыі каледжа шмат фатаграфій навучэнцаў і выкладчыкаў, на якіх наведнікі часта сустракаюць сваіх сваякоў ці знаёмых. Кіраўнік музея – Валянціна Гарбунова. Ствараць музей ў 1999 годзе ёй дапамагалі былы дырэктар Баранавіцкага краязнаўчага музея Станіслаў Шчарбакоў, а таксама мастак Вячаслаў Шчарбакоў. Падчас рэканструкцыі , якая прайшла да 50-годдзя каледжа (2009 г.), афармленнем займаўся мастак Дзмітрый Шчасны.

Кантактныя тэлефоны для экскурсійных груп: (8-0163) 41-25-27, (8-029) 359-72-62.

**Гістарычна-этнаграфічны музей хлеба і нацыянальнай кухні**

Адрас: УА «Баранавіцкі тэхналагічны каледж Белкаапсаюза», вул. Леніна, 5.

Калі заходзім у музей – трапляем ў імправізаваную «беларускую хату». За акном – снапы і млын, у пакоі – жорны для памолу мукі, дзежка (драўляная ёмістасць) для замесу цеста і печ. На стале – хлеб. Праўда, ён не выпечаны ў печы, а зроблены ў тэхніцы пап'е -машэ.

У другой частцы музея – нацыянальныя стравы беларускай кухні, як «прыгатаваныя» з парафіну, так і шэдэўры з цеста: каравы, пірагі, торты і птыфуры (маленечкія пірожныя) у выглядзе ракавінак з перлінкамі альбо кошыкаў з кветкамі.

Музей існуе з 1987 года. У 2009 годзе дзякуючы мастаку Дзмітрыю Шчаснаму ў ім прайшла рэканструкцыя. Кіраўнік – майстар вытворчага абсталявання Галіна Сушкевіч. Большасць экспанатаў сабраныя альбо прыгатаваныя навучэнцамі каледжа.

Кантактныя тэлефоны для экскурсійных груп: (8-0163) 41-25-27, (8-029) 524-04-37.

**Музей гісторыі нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі (1936 – 1939 гг.)**

Адрас: СШ №3, вул. Калгасная, 64.

Невялікі кабінет з фатаграфіямі і ксеракопіямі дакументаў з першага погляду падасца непрывабным для наведніка. Але, са слоў загадчыцы музея Анжэлы Бакуновіч, экспазіцыя з'яўляецца ўнікальнай для Беларусі і паводле тэматыкі, і паводле сабраных матэрыялаў. Пры яе стварэнні працаўнікі школы адпраўлялі запыты і лісты ў розныя дзяржаўныя органы СССР, у галоўнае палітычнае ўпраўленне Савецкай Арміі і Ваенна-марскога флоту, а таксама ўдзельнікам і сем'ям загінулых у нацыянальна-рэвалюцыйнай вайне ў Іспаніі. Усё гэта – матэрыял пра падзеі 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

Доўгі час школа была з іспанскім ухілам. Адсюль і цікавасць да гісторыі гэтай краіны. На экскурсіі, якую праводзяць у тым ліку і вучні школы, можна пазнаёміцца не толькі з іспанскімі героямі, якія ўдзельнічалі ў нацыянальна-рэвалюцыйнай вайне, але і, напрыклад, з гісторыяй жыцця нашага земляка Сяргея Грыцаўца, які пайшоў добраахвотнікам на Грамадзянскую вайну ў Іспаніі

Штогод у школе праходзяць тыдні іспанскай культуры, падчас якіх дзеці і настаўнікі праводзяць шмат экскурсій у музеі і робяць паказы з вершамі, песнямі і нацыянальнымі іспанскімі танцамі.

Музей быў адкрыты ў 1984 годзе. За час працы яго наведвалі госці з Іспаніі, у 2010 годзе прыязджаў першы сакратар пасольства Венесуэлы Герарда Эстрада Марцінес.

Кантактныя тэлефоны для экскурсійных груп: (8-0163) 41-90-81.

Якія яшчэ музеі можна наведаць у Баранавічах?

- Літаратурна-краязнаўчы музей імя В. Таўлая.

Адрас: сярэдняя школа №4, вул. Беднага, 47.

Кантактныя тэлефоны для экскурсійных груп: (8-0163) 41-61-00, (8-029) 808-61-38.

- Этнаграфічна-краязнаўчы музей.

Адрас: гімназія №1, вул. Паркавая, 45.

Кантактны тэлефон для экскурсійных груп: (8-029) 254-56-35.

**Беларускамоўнае навучанне на Лідчыне: Кропка незвароту яшчэ не пройдзена**

**Наша слова**

**Нядаўна ў СМІ прайшла інфармацыя пра рэгістрацыю на цэнтралізаванае тэставанне.** Толькі 33564 ўдзельнікі цэнтралізаванага тэставання абралі беларускую мову, а на рускую мову зарэгістраваліся 83829 чалавек. Беларускую мову такім чынам абралі 28,59%.

Аднак сітуацыя ў рэгіёнах некалькі іншая. Так у Лідзе на беларускую мову зарэгістраваліся 1268 чалавек, а на рускую – 1100 чалавек. Гэта значыць, што на беларускую мову зарэгістравалася 53,55%.

У Лідзе тэставанне праходзяць дзеці з Лідскага і прылеглых раёнаў (Воранаўскага, Іўеўскага, часткова Дзятлаўскага і Шчучынскага). Найбольш слабое звяно ў плане беларускасці – безумоўна 100-тысячная Ліда, дзе ўсе 16 школ рускамоўныя ды плюс горад Бярозаўка. Выдзеліць з дадзеных тэставання Лідскі раён праблематычна, але ёсць звесткі пра здачу выпускных экзаменаў.

Усяго выпускнікоў у Лідскім раёне сёлета 838 чалавек. З іх беларускую мову ў якасці асноўнага экзамена выбралі 395 чалавек, што склала 47,14%. Аднак яшчэ 195 чалавек выбралі беларускую мову ў якасці экзамену па выбару. Такім чынам, усяго беларускую мову здавалі 590 чалавек, што складае 70,41%. Да слова ў якасці экзамену па выбару рускую мову абралі толькі 98 чалавек. Усяго рускую мову на Лідчыне здавала на 49 чалавек менш, чым беларускую. Такім чынам, Лідскі раён сітуацыю моцна пагоршыць не мог.

Летась на тэставанне па беларускай мове ў Лідзе прыйшло 59% удзельнікаў. Сёлета адбылося падзенне на 5,5 %. Паводле ацэнкі старшыні Камітэта народнага кантролю па Лідскім раёне спадара Клімовіча, гэта – правал. Усе чакалі лепшых паказчыкаў. Спадар Клімовіч акрэсліў і прычыны. На яго думку некаторыя дзеці спужаліся новай беларускай арфаграфіі, ну а падзенне колькасць беларускамоўных класаў – з'ява агульнавядомая.

Аднак тое, што прадстаўнікі лідскіх уладаў лічаць гэтыя 5,5% правалам, якраз і ўсяляе пэўную надзею на паляпшэнне сітуацыі. Грамадства на Лідчыне і ў прылеглых раёнах здаровае, цалкам вярнуць пазіцыі беларускай мовы тут зусім рэальна. Кропка незвароту яшчэ не пройдзена.

*(Агляд зрабіла Станіслава Літвінчук)*

# МАНІПУЛЯЦЫІ ГІСТОРЫЯЙ У ПАДРУЧНІКАХ

Пра тое, як адлюстроўваецца гісторыя Беларусі ў сучасных школьных падручніках, разважаюць гісторыкі Валянцін Голубеў і Алег Трусаў.
Колькі разоў і як мяняліся ў Беларусі падручнікі гісторыі ад моманту краху камунізму і СССР?
Якія перыяды айчыннай гісторыі найбольш папраўленыя пад адпаведнасць сучаснай дзяржаўнай ідэалогіі?
Што можа даведацца сучасны школьнік пра апошні перыяд гісторыі краіны, звязаны з абвешчаннем і станаўленнем яе незалежнасці?
Ці насамрэч сучасныя беларускія гісторыкі вяртаюцца да сталінска-савецкіх і расійска-імперскіх стэрэатыпаў у асвятленні гісторыі і ці вядзе гэта да прынцыповых гістарычных фальсіфікацый? А ці ўводзіцца ў школьных падручніках новага пакалення беларуская гісторыя ў кантэкст развіцця сусветнай цывілізацыі?
І якія героі мінуўшчыны найболей акцэнтуюцца як прыклады для пераймання маладымі людзьмі?
Гэтае відэа на youtube: http://youtu.be/HeShiRQvVBIм

# ФІЛЬМ «У ТУМАНЕ» ПАВОДЛЕ ТВОРА ВАСІЛЯ БЫКАВА Ў СЕЦІВЕ

У сеціве з'явіўся ў добрай якасці фільм «У тумане», зняты рэжысёрам Сяргеем Лазніцам паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Стужка ўдзельнічала ў асноўнай конкурснай праграме 65-га Канскага кінафестывалю, дзе была ганаравана спецыяльным прызам.
Беларусь. 1942. Разгар фашысцкай акупацыі і партызанскай вайны. Недалёка ад хутара, дзе жыве чыгуначны абходчык Сушчэня, узарваны цягнік. Невінаватага Сушчэню арыштоўваюць разам з групай дыверсантаў, але не караюць смерцю, а адпускаюць на волю. Разносіцца чутка, што Сушчэня – калабарацыяніст, і партызаны Бураў і Войцік прыязджаюць забіць здрадніка...
Вы можаце спампаваць фільм для прыватнага прагляду на адным з файлаабменніках.

# УКРАІНА: РУСКАЯ МОВА З'ЯВІЦЦА Ў ШКОЛАХ У ЯКАСЦІ ДРУГОЙ ЗАМЕЖНАЙ

З новага навучальнага года ўступае ў сілу распараджэнне Міністэрства адукацыі і навукі пра абавязковае вывучэнне ў школах другой замежнай мовы. Паводле новых правіл, з 5 класа ўводзіцца абавязковае вывучэнне другой замежнай мовы. Ёй можа быць любая замежная мова, руская, ці іншая мова нацыянальных меншасцей.
Паводле гэтых даных, 52% школ абралі нямецкую мову, 23% – рускую, 14% – французскую, 8% – англійскую, 2% – польскую, 1% – іспанскую.

# ГРАМАДЗЯНСКАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З ДЗЯЦІНСТВА

хлопцы, відаць, у гэтым узросце больш цікавяцца іншымі рэчамі. Дарэчы, пра ўзрост. Нас зацікавіла тое, што сямі- і васьмікласнікі ўдзельнічаюць у конкурсе на роўных з адзінаццаці- і дванаццацікласнікамі. Так-так, у Чэхіі ў гімназіях вучацца да дванаццатага класа. Летнія вакацыі яшчэ не пачаліся, бо ў чэшскіх школах увесь чэрвень яшчэ вучацца.

Пасля ўступнага слова арганізатараў і невялічкага святочнага віншавання ад дзіцячых творчых гуртоў гімназіі пачалася прэзентацыя сацыяльных праектаў камандаў. Якія толькі праблемы не імкнуцца вырашыць школьнікі! Клопат пра самотных старых, абарона гарадскога парку ад смецця і вандалаў, уладкоўванне ў добрыя рукі бяздомных катоў ды сабакаў, збор сродкаў для цяжка хворай дзяўчынкі, супольныя акцыі з дзецьмі з інтэрната, упарадкаванне школьнай тэрыторыі ды іншае. На працягу не больш за 8 хвілін трэба было па пэўным плане расказаць аб сваім праекце і справах, якія каманда зрабіла за гэты год. Акрамя гэтага школьнікі адказвалі на пытанні сябраў іншых камандаў і тлумачылі незразумелае. Было прыемна адчуваць сапраўдны клопат маладых людзей пра агульную справу і бачыць вынікі гэтых справаў на свае вочы. Пасля прэзентацый камандаў-фіналістак усе 10 кіраўнікоў, арганізатары ды госці-назіральнікі накіраваліся на нараду ў пакойчык за сцэнай. Кожны кіраўнік каманды выбіраў 3 найлепшыя, на яго погляд, сацыяльныя праекты, акрамя ўласнага, зразумела. Пасля трэба было патлумачыць свой выбар. Нам такое падвядзенне вынікаў падалося вельмі аб'ектыўным, цікава было і параўнаць свой рэйтынг з думкамі калегаў. У выніку вылучылі тры найлепшыя праекты, якія вырашылі адзначыць. Адзін з трох быў праект дванаццацікласнікаў з гімназіі Брна, якія зрабілі на даху ўласнай школы сапраўдную прыгожую тэрасу для адпачынку падчас вялікага парапынку. Дарэчы, адміністрацыя гімназіі актыўна падтрымала ініцыятыву. Другі праект зрабілі васьмікласнікі школы з Румбурка, якія дапамагалі гарадскому прытулку для бяздомных сабакаў і катоў свайго горада. Яны зрабілі персанальны інфармацыйны стэнд па кожным гадаванцы, тры разы на тыдзень гулялі са сваімі падапечнымі, збіралі грошы, няньчылі сем народжаных шчанятаў. У выніку прытулак ледзь не зачыніўся, бо амаль усіх гадаванцаў, дзякуючы гэтай акцыі, разабралі жыхары Румбурка. Васьмікласнікі з гімназіі ў Подзебрадах задумаліся аб тым, дзе малыя дзеці вучацца лаяцца, біцца і, увогуле, дрэнна сябе паводзіць. Ды падрыхтавалі для малодшых школьнікаў займальныя гульні і вясёлыя плакаты, з дапамогай якіх яны праводзілі заняткі з малымі на працягу некалькіх месяцаў. Трэба яшчэ адзначыць, што найлепшыя сацыяльныя праекты былі разлічаныя на працяг. Прыемна ўразіла і тое, што школьнікі самі падрыхтавалі сваіх пераемнікаў. Вось яна – грамадзянская адказнасць у дзеянні.

Падвядзенне вынікаў нас таксама здзівіла. Спачатку на сцэну выйшлі каардынатары конкурсу, якія вельмі карэктна выказалі агульныя заўвагі, пажаданні, словам, адрэфлексавалі ўбачанае. Потым, у тым парадку як выступалі, каманды выходзілі на сцэну і кожны ўдзельнік атрымліваў памятны прыз ад арганізатараў (цудоўныя наборы чэшскай эка-касметыкі). Ніхто не акцэнтаваў увагу на найлепшых праектах, якіх мы палічылі пераможцамі конкурсу. Не давалі першага, другога, трэцяга месца, не ўшаноўвалі настаўнікаў-кіраўнікоў пад гукі фанфараў. Але арганізатары патлумачылі нам, што конкурс – гэта не спаборніцтва, таму і не трэба стымуляваць канкурэнцыю. Добрая справа павінна быць добрай сама па сабе, а не таму, што за гэта ўзнагародзяць, і, здаецца, менавіта ў гэтым яе сэнс.

На развітанне агульнае фота на памяць. Наперадзе доўгачаканыя летнія вакацыі для дзяцей і настаўнікаў. У верасні сустрэнемся на беларускім конкурсе сацыяльных праектаў школьнікаў!

*Алена Палейка*



Настаўнік.інфо.
Інфармацыйна-метадычны бюлетэнь для настаўнікаў
Выдаецца ініцыятыўнай групай стваральнікаў сайта ***Nastaunik.info***
Адрас для допісаў: ***nastaunik.info@gmail.com***
Наклад 200 асобнікаў

## ПАКАЛЕННЕ «Б»: РАЗВАГІ ПАСЛЯ АПОШНЯГА ЗВАНКА

*Дзмітры Быкаў*

Праводзіць выпускнікоў заўсёды не надта радасна, хоць, бадай, звычайнай настаўніцкай экзальтацыі з нагоды апошніх званкоў я не адчуваю. Па-першае, наперадзе экзамены, а па-другое, для нас жа, педагогаў, гэтыя званкі ў кожным разе не апошнія; зносіны з улюбёнымі вучнямі не спыняюцца, і наогул я б не надаваў гэтай мяжы асаблівага значэння. А вось якую лічыць галоўнай – не ведаю.

Сёлета я выпускаю ўлюбёны, бадай, школьны выпуск – у мяне яшчэ не было гэткіх дасціпных і зычлівых старшакласнікаў – і развітваюся з улюбёным першым курсам у МГІМО, тым самым курсам, які на працягу года цешыў мяне эрудыцыяй і самастойнасцю. Я амаль упэўнены, што з гэтых дзяцей, якім цяпер па 17 – 18, атрымалася б бліскучае пакаленне. Амаль. Бы. Таму што ў рэальнасці – тут у мяне, на жаль, ніякіх сумневаў – нічога такога не атрымаецца, вось з чаго якраз выпадае плакаць на апошнім званку.

У чым прычына і калі здарыцца пералом – не ведаю. Але ведаю дакладна праз выкладчыцкі досвед апошніх пяці гадоў: амаль усе мае выпускі былі выдатнымі. Маёй заслугі тут няма: гэта былі добра выхаваныя, начытаныя, з самастойным мысленнем дзеці. І сярод першакурснікаў былі з нестандартным мысленнем, успрымальныя, цалкам самастойныя людзі. Я сачу за іх працаўладкаваннем і заўважаю, што самым таленавітым цяжэй за ўсё. Чым больш таленавіты студэнт, тым менш верагоднасць, што ён працаўладкуецца. А ўлюбёныя мае школьнікі альбо змяніліся да непазнавальнасці, альбо ў рэшце рэшт з'ехалі за мяжу. Але найбольш дзіўная тая мяжа, за якой «матываваны», як гэта сёння завецца, разумны і перспектыўны студэнт ператвараецца ў пасрэднасць альбо сыходзіць у сябе.

*(Працяг у наступным нумары бюлетэня)*